# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№11 (234)

лістапад 2021

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" (у працэсе ліквідацыі)


**У НУМАРЫ:**

## "Проза" Янкі Юхнаўца ў "Бібліятэцы Бацькаўшчыны"

Як і абяцалі – яшчэ да зімовых святаў у "Бібліятэцы Бацькаўшчыны", серыі "Спадчына: агледзіны", выйшаў зборнік прозы Янкі Юхнаўца.

Старонка 2

## Слуцкі збройны чын, Міжнародны дзень салідарнасці з палітзняволенымі ў Беларусі ды іншыя акцыі салідарнасці з Беларуссю за мяжой"

Ва ўмовах пандэміі COVID19 Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" працягвае працэс ліквідацыі, але, выконваючы рэкамендацыі СААЗ, у рэжыме самаізаляцыі.

Беражыце і вы сябе таксама!

#будзьмадома




# ВЫЙШАЎ З ДРУКУ "КАЛЯНДАР ПА-БЕЛАРУСКУ"

Ці ведаеце вы, што значаць словы "мацярдушка", "брызгліна", "дзяркач", "свіргуль"? Фантазія разыгралася? А гэта ўсяго толькі назвы раслінаў і птушак па-беларуску!

У новым насценным "Календары па-беларуску" з малюнкамі і словамі на кожны дзень, які зусім нядаўна пабачыў свет у выдавецтве "Кнігазбор", яшчэ і не такія словы можна знайсці... Пазітыўныя, яскравыя малюнкі стварылі мастачка Дар'я Мандзік і дызайнер Анатоль Лазар, добра вядомыя ўсім па працы над папулярным і любімым многімі календаром "Не маўчы па-беларуску", які шмат год запар выпускала грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!".

Адкрываюць каляндар, як ніколі актуальныя, словы на тэму здароўя і медыцыны. Яны, безумоўна, дапамогуць стасавацца па-беларуску з доктарам тым, хто дагэтуль не наважваўся.

На старонках вясновых месяцаў выдатная падборка словаў з назвамі раслінаў і жывёлаў па-беларуску. Кастрычніцкая старонка календара дапаможа выказаць па-беларуску свае эмоцыі, а лістападаўская падкажа, як называюцца на роднай мове розныя элемены адзення.

Таксама з календара Вы даведаецеся, як па-беларуску "размаўляюць" хатнія жывёлы, як правільна па-нашаму паклікаць каня, коціка ці курант.

А яшчэ ў календары знойдзеце шмат цікавых устойлівых выразаў на роднай мове. Вось, напрыклад: загінуць, як тая рудая мыш; кульгавы, як твая цешча; сагнуцца ў дугу; цыбаты, як жэрдка.

Усё, больш не будзем спойлерыць. Набывайце цудоўны "Каляндар пабеларуску" з малюнкамі і словамі на кожны дзень і насалоджвайцеся смакам роднай мовы!

Каляндар з дастаўкай па ўсім свеце можна замовіць на сайтах: Knihi.by, "Мой модны кут" (mmkut.by), Тэхналогія (tn.by), Kniganosha.by, ragna.by і kniger.by.

# У БЕЛАРУСІ ЗАБЛАКАВАЛІ САЙТ "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ"

Пры спробе адкрыць сайт з'яўляецца стадартнае паведамленне.

Нагадаем, наш і іншыя заблакаваныя сайты можна чытаць праз VPN.

навіны

# “ПРОЗА” ЯНКІ ЮХНАЎЦА Ў “БІБЛІЯТЭЦЫ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ”




Як і абяцалі – яшчэ да зімовых святаў у “Бібліятэцы Бацькаўшчыны”, серыі “Спадчына: агледзіны”, выйшаў зборнік прозы Янкі Юхнаўца.

Том больш як на паўтысячы старонак адмыслова да 100-годдзя ад нараджэння пісьменніка ўклалі вядомыя даследчыкі беларускай эміграцыі Наталля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч.

Што ў кнізе? Апавяданні і дзённікавыя зацемкі. Бескампраміснасць цалкам пазбаўленай уплыву беларускай савецкай літаратурнай традыцыі “падакупацыйнай” (з лёгкай рукі Лявона Юрэвіча – у шэраг да “акопнай” і “партызанскай”) вайсковай прозы. Адмысловасць формаў мастацкага выяўлення, праз якую нават калегі-эмігранты ўжывалі на адрас Юхнаўца эпітэты “сюрэалістычны”, “дзікі” і папікалі або, наадварот, выказвалі захапленне апакаліптычнасцю выяўленых карцінаў.

Самабытнасць мастацкай мовы, якая ставіць аўтара ў адзін шэраг да Вацлава Ластоўскага і Янкі Станкевіча.

А таксама тры прадмовы-спробы з розных бакоў падступіцца да таямнічай аўтарскай творчай кухні і не менш таямнічай, у побытавых варунках мала адрознай ад “цьмянасці” ў творчасці, асобы самога Юхнаўца, чалавека, які па сваёй смерці ў 2004 годзе не займеў надмагілля, бо запавёў развеяць свой попел над Нью-Ёркам.

Прадмовы ад нью-ёркца і ўкладальніка кнігі Лявона Юрэвіча, ад беларуса з Бельску Яна Чыквіна і ад менчука Антона Рудака.

**Інфармацыйны цэнтр ЗБС "Бацькаўшчына"**

СУСВЕТНЫ КАНГРЭС БЕЛАРУСАЎ 2.0

## БЕЛАРУСЫ СВЕТУ ПРАВЯЛІ ДРУГІ КАНГРЭС

Беларусы з усяго свету на працягу сутак абмяркоўвалі, як дапамагчы краіне выйсці з палітычнага і гуманітарнага крызісу.

Сусветны кангрэс беларусаў 2.0 прайшоў 30 кастрычніка ў фармаце дваццацічатырохгадзіннай відэаканферэнцыі. Яго мэта – глабальны дыялог аб будучыні Беларусі з удзелам палітыкаў, грамадскіх актывістаў, лідараў меркаванняў, экспертаў і даследчыкаў. Арганізатары мерапрыемства – валанцёры беларускай супольнасці за мяжой. Цягам сутак на розных дыскусійных панэлях – палітыка, грамадзянская супольнасць, эканоміка, культура і іншых – эксперты і ўсе зацікаўленыя абмяркоўвалі сітуацыю ў Беларусі, а таксама, што можна зрабіць для пашырэння беларускасці ў свеце.

– 24 гадзіны без перапынку палітычныя лідары, актывісты і прадстаўнікі ініцыятыў і дыяспар, эксперты і неабыякавыя людзі абмяркоўваюць, як дапамагчы нашай роднай краіне пераадолець палітычны, эканамічны і гуманітарны крызіс, і галоўнае – дапамагчы нашым суайчыннікам, якія зараз знаходзяцца ў Беларусі, – заявіла беларускі лідар Святлана Ціханоўская.

У сваю чаргу, кіраўнік Народнага антыкрызіснага ўпраўлення Павел Латушка адзначыў, што салідарнасць, якая ахапіла беларусаў па ўсім свеце, мае гістарычны характар.

Першы Сусветны кангрэс беларусаў адбыўся год таму таксама анлайн. Адной з тэм стала стварэнне Народных пасольстваў – альтэрнатыўных прадстаўніцтваў Беларусі за мяжой для інфармавання грамадскасці аб сітуацыі ў Беларусі, абароны правоў і інтарэсаў беларусаў, дапамогі, якія вымушана пераехалі. Народныя пасольствы з’явіліся ў 16 краінах.

**Паводле novychas.by**

## У МУЗЕІ КОЛАСА АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА СА СТАРШЫНЁЙ БЕЛАРУСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЦЭНТРА “СВІТАНАК” У ТАШКЕНЦЕ

18 лістапада ў музеі адбылася сустрэча са старшынёй Беларускага культурнага цэнтра “Світанак” Святланай Дудзюк.

Святлана Мікалаеўна перадала ў фонды музея каштоўныя матэрыялы.

Галоўны захавальнік фондаў музея Васіліна Валер’еўна Міцкевіч правяла для шаноўнай госці экскурсію па выстаўцы “У той песні, шырокай, як свет…”, прысвечанай 100-годдзю першага выдання зборніка алегарычных апавяданняў Якуба Коласа “Казкі жыцця”.

Прыемным падарункам для Святланы Мікалаеўны сталася нядаўняе музейнае выданне “Казак жыцця”.



**Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа**

## ПАСЛЯ ЛІКВІДАЦЫІ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ЗВЯРНУЛАСЯ ДА СЯБРАЎ АРГАНІЗАЦЫІ

Пасля ліквідацыі Вярхоўным судом Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны звярнулася да сябраў арганізацыі. Тэкст звароту змясціла на сваёй старонцы ў Facebook старшыня ТБМ Алена Анісім.

У ім адзначаецца, што “прэтэнзіі Мінюста насілі фармальны характар”, аднак “рашэнне прынятае, і яно не падлягае абскарджванню… дзейнасць Таварыства беларускай мовы юрыдычна была спынена. Тым не менш мы заклікаем вас не адмаўляцца ад высокіх мэтаў, якім служыла наша арганізацыя, – гаворыцца ў звароце. – Сустракайцеся, размаўляйце па-беларуску паміж сабой, дома, на працы, захоўвайце паміж сабой сяброўскія сувязі, заахвочвайце да ўжывання беларускай мовы сваіх сяброў і калег”.

Актывісты спадзяюцца “аднавіць дзейнасць ТБМ пры першай магчымасці”.

ТБМ – адна з найстарэйшых грамадскіх арганізацый, яна была заснаваная ў 1989 годзе, яшчэ ў савецкія часы.

Яе мэтай з’яўляецца падтрымка і развіццё беларускай мовы і культуры.

ТБМ ліквідавалі з ініцыятывы Міністэрства юстыцыі.

**euroradio.fm**

тэатр

# СВАБОДНЫ ТЭАТР РЫХТУЕ СПЭКТАКЛЬ ПРАЖНІВЕНЬ-2020

Беларускі Свабодны тэатр правёў адкрытую рэпетыцыю новага спектакля "Gloomy sunday". Ён прысвечаны падзеям 9 жніўня 2020 года. Акторкі, харэографка, псіхатэрапеўтка падзяліліся ўражаннямі. Дзеля рэпетыцый Беларускі Свабодны тэатр сабраўся ў Кіеве на рэзідэнцыю. Трупа мусіла пакінуць Беларусь праз рэпрэсіі.



### "Я слухала сілавікоў і крыкі ў жніўні, таму мне нічога не трэба прыдумляць"

Падчас рэпетыцый новага спектакля з акторамі працавалі псіхатэрапеўтка Тацяна Данцова з арганізацый ВОСТОК-SOS і доктарка Імке Хансэн з Libereco – Partnership for Human Rights.

– Яны выцягвалі нас на кожным моманце, калі ў нас былі трыгеры, а было гэта вельмі часта, улічваючы, што мы ўцяклі з Беларусі наўпрост сюды на рэзідэнцыю. Гэта для нас сур'ёзнае выпрабаванне – гаварыць пра свой боль, бо думаеш, што гэта сорамна, камусьці ж баліць мацней. Дзякуючы псіхатэрапеўтам мы змаглі знайсці сілы, і гэты праект адбыўся, – кажа прадакшн-менеджар Свабоднага тэатра Святлана Сугака.

Святлана трапіла ў турму летась у жніўні, у самыя жорсткія дні. У спектаклі дзяўчына сама грае сілавіка, які лаяўся матам, здзекаваўся, збіваў.

– У жніўні я сама бачыла сілавікоў, чула гэтыя крыкі. Момант удушэння ў спектаклі, недахоп паветра – гэта ўсё пра мяне, мая гісторыя. І як мне быць сілавіком? З аднаго боку, я стараюся не ўключацца, бо яно мне не трэба. З іншага боку, немагчыма не ўключацца. Як толькі ты пачынаеш агрэсіўна сябе паводзіць, тваё цела гатовае ісці далей. Ты пачынаеш з агрэсіўных выказванняў, крычыш на кагосьці, і вось наступны крок – ты ўжо гатовы ўдарыць.

Света кажа, што паколькі яна прайшла гэты траўматычны досвед, то не хоча, каб яе сябры на сцэне праходзілі праз тое ж самае. Таму адразу пасля рэпетыцый выбачаецца за сваю жорсткасць.

– Я потым у Імке пыталася, як мне быць з гэтым станам "Гэй, давай, бл…, чаго глядзіш!". Я рада, што ёсць спецыялісты, якія цябе потым проста "выключаюць" з гэтага. Я слухала сілавікоў і іх крыкі вельмі доўга ў жніўні, і я ведаю гэтую інтанацыю на памяць, мне нічога не трэба прыдумляць. Адмысловая інтанацыя, манера паводзін, пастаноўка цела – і ты ўжо баішся, – кажа Света.

### "Для мяне быў выклік – як расказаць пра катаванні"

– Гэта трэба бачыць, трэба ведаць. Гісторыя перапісваецца ўвесь час, і мы так хутка адпускаем лейцы, даем наступнаму пакаленню фармаваць карцінкі. Але гэта наша адказнасць – захаваць падзеі, неяк дакументаваць і архіваваць іх, – кажа харэографка Вольга. – Частка спектакля, якую паказалі, – цялесны досвед агульнай траўмы, гвалт, перапрацаваны ў арт-выказванне, – тлумачыць Вольга.

– Гэта даследаванне, лабараторыя. Гэта яшчэ не зусім прадукт, а вельмі асцярожны пачатак, спроба перапрацаваць і стварыць цялеснае выказванне, – кажа яна. – Для мяне быў выклік – як расказаць пра катаванні, пераасэнсаваць, раскласці на часткі. Вядома, мы можам уключыць аўдыёзапіс катаванняў і пакінуць людзей успрымаць гэта. Але трэба памятаць, што чалавек прывыкае да ўсяго, і ў той момант, калі той бок лаяўся матам, людзі чыталі Шэкспіра ўголас у камеры, гулялі ў мафію, каб заставацца жывымі.

### "Цела не забылася, што яно было ў турме, у аўтазаку. І мы менавіта гэта хочам паказваць"

Доктарка Імке Хансэн з арганізацыі Libereco – Partnership for Human Rights кажа, што перажывала пра тое, як пачаць працу, калі людзі яшчэ так глыбока ў смутку, бездапаможнасці, пачуцці віны.

– Але мы вельмі хутка ўсе сышліся, і я была ў захапленні, наколькі яны ўсе адкрытыя і смелыя. А ў працы з целам патрэбная смеласць, бо трэба паказваць яго імпульсы. Усе давяралі адно аднаму, быў такі азарт, такое натхненне. Гэта быў вельмі цікавы досвед, як акторы шукаюць агульную мову, рухі, сюжэты праз тое, што іх цела не забылася, яно было ў гэтай сітуацыі, было ў турме, у аўтазаку, было ўсюды, і мы менавіта гэта хочам паказваць, – кажа доктар Імке Хансэн.

Імке адзначае, што ў працы з траўматычным досведам важна, каб побач былі людзі, якія падтрымаюць. У выпадку такога спектакля гэта спатрэбіцца і акторам, і гледачам.

– Падчас паказу людзі сутыкаюцца з рознымі момантамі, флэшбэкамі, якія іх надрываюць, а гэта было вельмі часта тут. Мы спрабавалі нейкі гук, сцэну, і кагосьці "накрывала". Таму трэба, каб хтосьці быў побач, хто дапаможа чалавеку досыць хутка і эфектыўна перапрацаваць гэты боль так, каб сітуацыя захавалася, але сам боль сышоў. Наогул праца з траўмай патрабуе, каб ты не трымаў усё ў сабе, а дзяліўся, дазваляў свайму целу гаварыць.

Доктар звяртае ўвагу, што калі б людзі маглі прымаць стрэс і траўму, то праблем было б менш.

– Я не прыдумала свой стрэс, ён ёсць, гэта маё цела. І калі мы хочам сябраваць з целам, з нервовай сістэмай, тады кагнітыўнае мысленне нам дапаможа слухаць наша цела. Хлопцы і дзяўчаты ў групе – натуральныя таленты. Было вельмі прыемна бачыць, як добра людзі працуюць і сябруюць са сваім целам і хочуць працаваць глыбей са сваёй свядомасцю, – кажа доктарка.

### "Пасля 9 жніўня ва ўсіх накіпела, і як фантан пачынала ўжо біць з нас"

Акторка Марына Якубовіч прызнаецца, што пасля рэпетыцый адчувала палёгку.

– Гэта вельмі цікавы досвед, бо Свабодны тэатр заўсёды працуе інтэнсіўна. Мы за месяц рабілі спектакль, а тут такі спакойны рэжым. Было вельмі камфортна, што нас падтрымлівалі спецыялісты. За ўвесь гэты перыяд пасля 9 жніўня ва ўсіх набралася, накіпела. Нам трэба было ўжо пачынаць размаўляць пра гэта, выліваць, бо яно як фантан пачынала ўжо біць з нас, – кажа акторка Марына Якубовіч.

Акторка Юля Шаўчук дадае, што ёй здавалася, быццам усё ў парадку і ніякай траўмы няма, пакуль не пачалася сумесная праца.

– У першы дзень, калі мы сустрэліся з хлопцамі і дзяўчатамі, якія з'ехалі паўгода таму, была відавочная розніца, наколькі мы, прыехаўшы толькі што, траўмаваныя. Для мяне было дзіўным, што калі я з'язджала з краіны, думала, буду сумаваць і галасіць па Менску, але пакуль у мяне такога не ўзнікла. Я зараз не хачу ў Беларусь, бо там гамон, тэрор.

Падчас спектакля з Юлі здзекуюцца і абматваюць яе чырвона-зялёным скотчам. Дзяўчына кажа, што ў гэты момант не думае пра кепскае, а стараецца зручней згрупавацца, каб Свеце, якая грае сілавіка, было прасцей яе цягаць па сцэне.

– Гэта было першае, што мы сабралі, і я не разумею, колькі гэта цягнулася па часе. Цікава, што першая сцэна ў нас не атрымлівалася, але калі мы паказалі гледачам, у нас з'явіўся аб'ект, гэта стала працаваць.

### "У болю таксама вельмі шмат прыгажосці"

Падчас выступу акторы ўвесь час узаемадзейнічалі з гледачамі. "Сілавікі", напрыклад, адразу аддзялілі іх чырвоным скотчам, а потым крычалі ў твар, здымалі на тэлефон і прымушалі назваць імя, прозвішча і дату нараджэння, як гэта робяць у беларускай турме.

– Мы не такі тэатр, дзе глядач сядзіць у камфортных крэслах, гэта наогул не пра нас, – кажа Света Сугака. – Калі мы можам вас задзейнічаць, мы вас задзейнічаем, таму што вы павінны быць унутры працэсаў. Гэта не мы перажываем, а вы на нас гледзіце, мы разам з вамі ў гэтай гісторыі. Мы разам былі на маршах, мы разам з гледачамі сядзелі ў адной турме, у адных камерах, і гэтую гісторыю ўжо не сцерці. Мы ўсе сталі свабодныя, і якім чынам, мы пакуль нн ведаем. Давайце гэты боль і страх акумулюем, адкрыем, атрымаем асалоду ад прыгажосці, таму што ў болю таксама вельмі шмат прыгажосці, адпусцім і пойдзем далей.

Праца над спектаклем працягнецца ўвесну.

svaboda.org

кнігі

# Кнігатэрапія ад Ніны Занковіч: “Кнігі нікуды не знікаюць – ніколі”

“Мне было за сорак, я чытала ў сваім фіялетавым крэсле, майму бацьку было за восемдзесят, а попел маёй сястры быў у акіяне, над якім праплывае бязмежнае сіняе неба. І толькі цяпер я зразумела важнасць азірання назад, значнасць, важнасць успамінаў”. Так піша Ніна Занковіч у сваёй працы “Талстой і фіялетавае крэсла. Мой год чытання”.



Сям’я Занковічаў: Наташа, Ан-Мары, Анатоль, Тыльда і Ніна. 1997 г.

Гэта не столькі кніга пра кнігі, колькі пра памяць, страх і стому, дэпрэсію і выхад з яе. Пра маленькія радасці кожнага дня, якія, здаецца, і ўтрымліваюць гэты свет ад падзення ў бездань.

Эмігранцкая літаратура зазвычай бачыцца нам як нешта рэтраспектыўнае. Гісторыі вайны і ўцёкаў, цяжкай працы і самарэалізацыі далёка ад Радзімы. Праз лабірынты чалавечых гісторый, прозвішчаў і дат алхімічным спосабам мы выціскаем па кроплі досвед і мараль тых людзей.

Кніга Ніны Занковіч – іншая. Гэта практычны дапаможнік. Пасля цяжкай хваробы і смерці старэйшай сястры Ан-Мары аўтарка пакутуе на дэпрэсію і знаходзіць выратаванне ў кнігах. І гэта зусім не ўцёкі ад рэальнасці. Гэта пошук выйсця і, урэшце, вяртанне да жыцця.

Здаецца, такі досвед будзе зусім не лішні для траўмаванай нацыі. Асабліва – “кніжнай нацыі” – як часта акрэсліваюць беларусаў.

## Штодзень па кнізе і так – цэлы год

“Заўсёды знойдзецца пыл, які трэба працерці, і бялізна, якую трэба памыць, і купіць малака, і прыгатаваць абед, і памыць посуд. Але цягам аднаго года падобныя рэчы не павінны адрываць мяне ад чытання. Я сама сабе даю адзін год на тое, каб нікуды не бегчы, не планаваць і не займацца хатнімі справамі. (...) Мы адмовімся ад непатрэбнага і будзем знаходзіць задавальненне ў тым, што ў нас ужо ёсць”.

Задумка аўтаркі наступная: цэлы год чытаць па адной кнізе на дзень. Гучыць фантастычна, праўда? Паспяховая юрыстка, пісьменніца і эмігрантка ў другім пакаленні на год вырашае адмовіцца ад працы і хатніх клопатаў, каб пабыць сам-насам з сабой. Разгрэбсці падваліны падсвядомасці, крыўдаў і траўмаў.

А грошы? Грошы – гэта зароблены раней капітал – падушка бяспекі. Падтрымка з боку мужа. Круціцца як вавёрка ў коле можна ўсё жыццё, але навошта, калі няма часу на радасці? Навошта, калі штовечар засынаеш з болем і з ім жа прачынаешся? Каму тое трэба?.. Так разважае Ніна Занковіч.

Яе эпапея з чытаннем – гэта амерыканская і беларуская гісторыя адначасна. Амерыканская, бо чалавек цалкам рацыянальна разважае: апроч банкаўскага рахунка і здаровых зубоў у свеце ёсць яшчэ нешта – трэба прыняць рашэнне і паспрабаваць. Беларуская, бо ў якасці метада Ніна абірае кнігі – нешта медытатыўнае, глыбокае і простае ў рэалізацыі.

## “Трое за адну ноч...”

Праз усю кнігу Занковіч праходзяць дзве лініі: чытацкі дзённік з прозвішчамі аўтараў, назвамі і сюжэтамі, ды – развагі пра сваё жыццё, лёсы далёкіх і блізкіх, выпадковых і невыпадковых людзей. Глыбокая самарэфлексія.

З кніг усё пачынаецца: яшчэ малады бацька, які пакінуў Беларусь у 1944-м, чытае дзецям калядныя гісторыі, а маці робіць з томікаў інсталяцыі – накрывае белым абрусам, каб атрымаўся зімовы пейзаж, з гарамі і далінамі. Рэшта гісторый: першае каханне, сяброўствa, перамогі і паразы – усё з кнігай пад пахай ці ў заплечніку. Для хворай сястры Ніна ў лякарню таксама носіць кнігі.

“Пасля смерці маёй сястры бацька ўсё паўтараў: "Трое за адну ноч, трое за адну ноч", – нібыта звяртаючыся праз шмат гадоў да сваёй маці ў пошуках разумення і з просьбай аб дапамозе. Бацька не мог узяць у толк, як маці перажыла наступны дзень, ці яшчэ адзін дзень, ці ўсё астатняе жыццё пасля страты траіх дзяцей. Сам ён не разумеў, як перажыве наступны дзень пасля смерці старэйшай дачкі, якая павінна была б яшчэ жыць і жыць”.

Што значыла гэтае “трое за адну ноч”, Ніна зразумела пасля. Гэта ўжо падваліны сямейнай і генетычнай памяці. У вайну яе бацька за ноч згубіў двух братоў і сястрычку – іх забілі ў роднай хаце. Пасля, у 1945-м, уцякаў з палаючага Дрэздэна. Каб спыніўся адпачыць – наўрад ці б выжыў. Пасля былі два гады ў шпіталі для сухотнікаў...

Аўтарка разумее, што каб не бацькава воля да жыцця, не чытала б яна зараз аніякіх кніжак. Праз гэтую сямейную гісторыю яна знаходзіць ключ да сябе сучаснай: калі бацька вытрываў гэта кашмар, дык чаму не можа яна? Кнігі, у сваю чаргу, таксама дапамагаюць – апісаны ў іх боль дае разуменне, што бяда здараецца скрозь. І кожны можа яе пераадолець.

## Дробныя радасці – прычына працягваць жыць

“Духмянасць хваёвай шышкі, водар папкорну, смак халоднага піва ці мятнай цукеркі: мноства пачуццяў – і раптам выразная прыгажосць, ці радасць, ці смутак. Прыгажосць жыве ў тых момантах жыцця, якія мы захавалі ў памяці, у момантах, што натхняюць нас зноў і зноў. Мы стаім на моцных па́лях, убітых нашай памяццю”.

Слова “памяць” у тэксце аўтаркі, мабыць, другое па папулярнасці пасля “кнігі”. З памяццю цікавая рэч: як прыклад Занковіч прыводзіць апавяданне Дыкенса пра двайніка. Па сюжэце прывід прапаноўвае чалавеку сцерці балючыя ўспаміны ды – супакоіцца. Той пагаджаецца, але – перастае быць сабой.

Наколькі б траўматычным ні было мінулае, без яго мы губляем сябе. Больш за тое, памяць – гэта і добрыя, і дрэнныя моманты. Мы самі выбіраем, на якіх фіксавацца, што менавіта перавbooварваць раз за разам. Вінаватая не памяць, а мы самі. Больш таго – мы сённяшнія. Трэба ўсё памятаць, усё прабачаць, але найбольш узгадваць тое добрае, што было:

“Памяць не можа знішчыць гора ці вярнуць мёртвых, але яна дазваляе мінуламу заставацца з намі назаўжды. У мінулым было ўсё, былі і дрэнныя моманты, але таксама і вельмі добрыя: напрыклад, калі мы весяліліся, гулялі, каштавалі смачныя стравы, абмяркоўвалі цікавыя кнігі. Калі мы памятаем людзей, якія памерлі, мы аддаем даніну павагі жыццям, якія яны пражылі”.

Сакрэт у тым, што дробныя радасці – гэта прычына працягваць жыць. Калі яны здараліся раней, то чаму не могуць паўтарыцца? “...Ты напішаш новы раман, ці сустрэнеш новага сябра, ці паглядзіш футбольны матч па ТБ”, – цытуе аўтарка кнігу Джуліян Барнс “Няма чаго баяцца”. Пакуль мы жывыя, шанц на лепшае застаецца заўсёды.

## Кнігі і грошы павінны знаходзіцца ў абароце

Ніна Занковіч паглыбляецца і аналізуе чытанне як такое ды асаблівасці кніжных жанраў. Кожны з іх можа быць карысным, нават калі знешне падаецца “несур’ёзным”. Напры-

клад, дэтэктыў. Апроч відавочнага – забойства, каханне, смерць, рызыка – гэта гісторыя пра ўпарадкаванасць сусвету. Пра невыпадковыя выпадковасці. Пра канцоўку, якая ўсё расстаўляе на свае месцы.

Цікавыя заўвагі пра "кругазварот кніг у сусвеце". Маўляў, калі людзі даюць ці раяць пачытаць адно аднаму кнігі, то прыадчыняюць свае сэрцы – даюць нешта ад сябе. Працягваюць руку. Мабыць, не варта ігнараваць такія жэсты, асабліва калі перад табой блізкі чалавек. Кнігі, якімі з табой дзеляцца, – як "нечаканыя госці ў хату".

Аўтарка цытуе Генры Мілера: "Як і грошы, кнігі павінны пастаянна знаходзіцца ў абароце. Аддавайце і пазычайце па максімуму – і кнігі, і грошы! Асабліва кнігі, бо кнігі больш вечныя, чым грошы. Кніга – не толькі сябар, але і ваша магчымасць пасябраваць з кімсьці. Калі вы чытаеце разумную кнігу, яна вас узбагачае. А калі вы дзеліцеся ёю з іншымі, яна вас узбагачае ўтрая больш".

А вось яшчэ цытата – з Карнэліі Функе: "Кнігі любілі ўсіх, хто іх адгортваў; яны давалі пачуццё бяспекі і сяброўства і нічога не прасілі ўзамен; яны нікуды не знікалі – ніколі, нават калі яны камусьці не падабаліся. Каханне, праўда, прыгажосць, мудрасць і суцяшэнне супраць смерці. Хто гэта сказаў? Той, хто любіў кнігі".

### Крэда новай кніжнай культуры

Кніга Ніны Занковіч – добры адказ на пытанне пра месца кнігі ў сучасным свеце. Кажуць, што чалавек з юнацтва чытае прыгодніцкую літаратуру, пасля – мемуары, а пасля – проста чытае, па звычцы. Чытае ўсё і не ведае – для чаго. Паводле аўтаркі, у чытання ёсць практычная карысць. Не меншая за бег, ёгу, заняткі спортам ці адпачынак з келіхам віна на беразе акіяну.

Кнігі – гэта ўніверсальная тэрапія і сродак камунікацыі, які за стагоддзі не згубіў актуальнасці:

"Літаратура дазволіла мне пабачыць, што маё ўласнае пачуццё страты і разгубленасці не ўнікальнае: яно сустракаецца ў кожнага чалавека па ўсім свеце (...). Як жыць? Са спагадай. Толькі калі ты здымеш з сябе ўвесь гэты цяжар сваіх страхаў і былых таніны, ізаляцыі і смутку, толькі тады ты зможаш адчуць палёгку. Баласт на тое і баласт, каб ад яго пазбаўляцца.




Я засеяла свае новыя жаданні – і маю новыя памкненні пусцілі карэнне. Я знаходжуся ў садзе, вызваленым ад ядавітых раслінаў і пустазелля, і я тут не адна: ёсць яшчэ людзі, якія змагаюцца з бур'янам і гатовыя да сонца".

Чым не крэда для новай беларускай кніжнай культуры? Калі чытаеш не праз "абавязак перад беларушчынай", не для кагосці, не па звычцы, але – для сябе. Для ўласнай перазагрузкі. Для таго, каб наноў пасябраваць з сабой і светам.

**АК, budzma.org**

# "Беларусь на шляху да свабоды". Новая кніга тлумачыць чэхам, што такое сённяшняя Беларусь

У Бібліятэцы Вацлава Гаўла ў Празе 8 лістапада адбылася прэзентацыя кнігі "Беларусь на шляху да свабоды" чэшскіх журналістак Адэлы Дражанавай і Тэрэзы Шупавай. Аснову кнігі склалі інтэрв'ю з прадстаўнікамі некалькіх пакаленняў апанентаў рэжыму Лукашэнкі. Іх лёсы разам з поглядамі чэшскіх журналістаў жыва малююць карціну сучаснай гісторыі "апошняй дыктатуры Еўропы".

Пісаць журналісцкую кнігу пра падзеі, якія ўсё яшчэ адбываюцца, заўсёды справа крыху далікатная: сітуацыя можа змяніцца за месяц, за тыдзень, а можа і за дзень. "І гэта дакладна тое, на што мы спадзяёмся", – пісалі аўтаркі кнігі ў чэрвені. На момант выхаду кнігі ў свет і яе прэзентацыі гэтае спадзяванне яшчэ не спраўдзілася.

Аўтаркі пагаварылі з Алесем Бяляцкім пра беларускі дысэнт 1980-х і пра рэфэрэндум 1996 года, з Ірынай Халіп – пра выбары 2010 года і іх наступствы, з Алесем Міхалевічам – пра ўмовы ў беларускіх турмах, з прадстаўнікамі новага пакалення Франакам Вячоркам і Тацянай Гацурай-Яворскай – пра падзеі 2020 года. Погляд звонку прадстаўлены ў размове з Максам Шчурам, паэтам, які ўжо больш за 20 гадоў жыве ў Празе.




Адэла Дражанава і Тэрэза Шупава

Гэтыя тэксты дапоўніла інтэрв'ю з найвядомейшай чэшскай рэпартэркай Пэтрай Прохазкавай, якая прыблізіла беларускую рэальнасць чэшскаму чытачу і параўнала яе з сітуацыяй у іншых постсавецкіх краінах, а таксама з пражскай беларускай даследчыцай Аленай Маркавай, якая знаёміць чытачоў з праблемай беларускай мовы і нацыянальных сімвалаў.

Завяршае кнігу інтэрв'ю з Святланай Ціханоўскай, дзе палітычная лідарка расказала і пра асабістае – пра дзяцей, як яны сумуюць па тату, як кожны вечар пытаюцца пра яго.

Прадмову да кнігі напісаў адзін з найбольш дасведчаных у справе Беларусі і постсавецкай прасторы чэхаў, журналіст Ондра Соўкуп, які і быў мадэратарам прэзентацыі кнігі. Апрача яго і абедзвюх аўтарак, у прэзентацыі ўдзельнічаў журналіст, эксперт у расійскіх пытаннях і перакладчык рускай літаратуры Лібар Дворжак.

Пятае крэсла на сцэне Бібліятэкі Вацлава Гаўла засталося пустое – рэпарцёрка Пэтра Прохазкава, пачуўшы ў ранішніх навінах пра драматычныя падзеі на польска-беларускай мяжы, тэрмінова выехала на месца здарэнняў.

Прэзентацыя прыцягнула шырокую ўвагу – нягледзячы на пандэмічныя абмежаванні, зала бібліятэкі, якая ўмяшчае каля паўсотні чалавек, была цалкам запоўненая. Сярод наведнікаў былі і чэхі, і прадстаўнікі беларускай дыяспары – як "старой", так і той хвалі, што прыехала ў Чэхію пасля падзей лета і восені 2020 года.

Прэзентацыя і "хрост" кнігі прайшлі змястоўна і ўрачыста, але частка, прысвечаная пытанням з залы, нечакана набыла больш драматычны характар. Некалькі слухачоў – і беларусаў, і чэхаў – катэгарычна і эмацыйна зрэагавалі на некаторыя выказванні русіста Лібара Дворжака, які спрабаваў параўнаць беларускія пратэсты 2020-га з украінскім "Майданам" і выказаў думку, што беларусы, магчыма, не гатовыя рызыкаваць, ісці на ахвяры дзеля змены сітуацыі і што пакуль у Менску не адбудзецца сапраўдны "майдан", зрынуць аўтарытарную дыктатуру не ўдасца.

Нязгодныя з гэтым меркаваньнем казалі, што нават на гэтай прэзентацыі прысутнічаюць удзельнікі беларускіх пратэстаў, якія не пабаяліся рызыкаваць і заплацілі за гэта ў тым ліку сваім здароўем, дзясяткі тысяч беларусаў прайшлі праз арышты і зьняволенне, у краіне застаецца больш за 800 палітычных вязняў, таму гаварыць пра нейкую "нерашучасць" беларусаў і нежаданьне ісці на рызыку як мінімум недарэчна. Спадар Дворжак збольшага пагадзіўся з заўвагамі і не настойваў на сваіх аргументах.

Кніга Адэлы Дражанавай і Тэрэзы Шупавай "Беларусь на шляху да свабоды" (Bělorusko na cestě ke svobodě) выйшла ў выдавецтве Kniha Zlin, яна багата ілюстраваная, сярод амаль сотні здымкаў некалькі дзясяткаў належаць фотакарэспандэнтам Радыё Свабода.

Адэла Дражанава – журналістка часопіса Reportér, Тэрэза Шупава – рэдактарка замежнай рэдакцыі агенцтва ČTK.

**Сяргей Шупа, svaboda.org**

**Вільня**

# Людвіка Кардзіс: “ЛЮДЗІ, ПЕРАЯЗДЖАЮЧЫ, ДУМАЮЦЬ , КАБ ІХНІЯ ДЗЕЦІ НЕ ЗАБЫЛІСЯ СВАЕ КАРАНІ”

Чаму стаць больш беларускімі – агульная справа для ўсіх дыяспар.

Не так даўно ў Вільні адкрыўся Цэнтр беларускай культуры і супольнасці, ці наўпрост Беларускі дом. Пра гэтае месца сілы распавяла ў інтэрв’ю “Салідарнасці” адна з ініцыятарак яго стварэння, актывістка беларускай грамады Людвіка Кардзіс.

Яшчэ 25 сакавіка гэтага года, расказвае спадарыня Людвіка, была падпісаная дамова з Віленскай мэрыяй аб 5-гадовай арэндзе будынка на адной з самых ажыўленых вуліц літоўскай сталіцы – Віленскай. А папярэдне грамадская арганізацыя “Беларускі музэй імя Івана Луцкевіча” выйграла адмысловы конкурс на гэты дом.



Цяпер беларусы, якія нядаўна патрапілі ў Вільню, могуць атрымаць тут юрыдычную, кансультацыйную дапамогу, псіхалагічную падтрымку, далучыцца да культурніцкіх і адукацыйных ініцыятыўў. Яшчэ адной умовай было стварэнне Беларускага музэю, які фактычна аднаўляецца па драбніцах.

– Мы ўзялі сабе ў партнёры некалькі арганізацый – “Зубр”, “Разам”, “Пагоня”, “Дактары за праўду і справядлівасць” – і ад красавіка пачалі касметычны рамонт, які, праўда, трошку зацягнуўся. Але гэта не перашкодзіла працы, і на сення ў Беларускім доме ёсць курсы літоўскай, англійскай мовы, акадэмічнага малюнку; дзейнічае фальклорны гурток “Беларускі цуд”, “Мова Нанова” і іншыя ініцыятывы. Паспяховым праектам аказалася нядзельная беларуская школка, у якую прыходзяць дзеці ад малога ўзросту да 17 год: маленькія вывучаюць беларускую мову, а ў старэйшых ёсць уласны выдавецкі праект.

Актывісты беларускай суполкі ў Літве не сталі чакаць афіцыйнага ўрачыстага і пафаснага адкрыцця з пераразаннем стужак – фактычна, пляцоўка ўжо з 1 ліпеня працуе.

Адбываюцца сустрэчы з цікавымі людзьмі, прэзентацыі: напрыклад, нядаўна прадставілі дэбютную кнігу журналіста Аляксея Дзікавіцкага (“Оньдэ” – зборнік апавяданняў і вершаў, напісаны паляшуцкай мовай – С.), прэзентавалі кнігу паэткі Вольгі Гапеевай “Самота, што жыла ў пакоі насупраць”.

– Прыходзіць розная аўдыторыя, але відавочна, што ў людзей ёсць зацікаўленасць і ёсць патрэба быць уключанымі ў культурнае жыццё, – зазначае Людвіка Кардзіс.

– Таксама музэй ладзіць выставы – першай была экспазіцыя “Чаму воля гэта жанчына”, прысвечаная беларускім жанчынам. Наступная выстава, прысвечаная 100-годдзю віленскага Беларускага музэю імя Івана Луцкевіча, мусіць адкрыцца неўзабаве.

З іншых яскравых імпрэз варта згадаць свята “Багач”. За апошнія 30 год майго ўдзелу ў беларускіх арганізацыях, напэўна, яно адбылося ўпершыню, бо Каляды, Купалле адзначаем штогод, а “Багач” толькі сёлета.

Яшчэ адна імпрэза, у якой удзельнічаў Беларускі дом – Ноч расстраляных паэтаў. Сёлета яна была міжнароднай, і ў Вільні адбылася жыўцом каля былога будынку КДБ Літвы.

**– Вільня – мабыць, самы “беларускі” з суседніх гарадоў, і да пачатку пандэміі ў выходныя, здаецца, можна было сустрэць у Вільні паў-Мінску. Але адна справа – прыехаць на вакацыі, а другая – вымушана з’ехаць, няхай у гасцінную, знаёмую, але не родную краіну. З якімі праблемамі, па вашых назіраннях, найчасцей сутыкаюцца беларусы?**

– Так, пры ўсёй блізкасці да Менску людзі апынуліся ў чужой краіне, шмат хто ўцякаў ад пераследу і не мае магчымасці вярнуцца зараз дахаты. Тыя, хто мае сталую працу і рэлакаваўся з офісам, адаптуюцца крыху лягчэй, а тым, хто нядаўна

# 215 НА ДВАІХ: У ВІЛЬНІ АДЗНАЧЫЛІ АДРАЗУ ДВА ДНІ НАРОДЗІНАЎ

У Вільні адзначылі адразу два дні народзінаў: 100-годдзе Віленскага беларускага музея імя Івана Луцкевіча і 115-годзе выдання “Наша ніва”. Іх гісторыі падобныя тым, што яны спынялі сваё існаванне – і адnaўлялі.

Віленскі беларускі музей імя Луцкевіча быў адноўлены дзякуючы Людвіцы Кардзіс – 25 сакавіка 2021 года Віленскі беларускі музей падпісаў дамову з Віленскай мэрыяй аб арэндзе памяшкання ў Беларускім доме, дзе і праходзіла імпрэза. З ліпеня ёсць магчымасць ладзіць выставы, нведнікі могуць азнаёміцца з экспанатамі, а навукоўцы – працаваць з імі. Пра газету “Наша Ніва”, якая аднавілася ў 1991 годзе, расказаў адзін з ветэранаў выдання – Сяргей Харэўскі, які працаваў там да 2018 года, адзначыўшы што газета заўсёды адпавядала патрабаванням часу і імкнулася аб’яднаць людзей, злучаць самыя шырокія колы.

Да падвоенага дня народзінаў адкрыліся дзве выставы. Першая прысвечаная гісторыі Беларускага музея ў Вільні. А другая – “Наша Ніва” ў фотаздымках”. Удзельнікі мерапрыемства таксама падпісалі паштоўкі да палітзняволеных супрацоўнікаў “Нашай Нівы” Ягора Марціновіча і Андэя Скурко. Малюнкі да паштовак былі створаныя хрэсніцай Ягора.

Паводле “Беларускае Радыё Рацыя”



Унучка Антона Луцкевіча Алеся Луцкевіч і дырэктарка Беларускага музея імя Луцкевіча Людвіка Кардзіс

прыехаўшы і працы не мае, даводзіцца вырашаць мноства бягучых пытанняў: як аформіць і працягнуць візы, дзе знайсці жытло, каб цябе не падманулі, што з медыцынскім абслугоўваннем, калі страхоўка прадугледжвае толькі першую дапамогу – ды нават дзе лепш купіць неабходныя рэчы.

Акрамя бытавых, канешне, ёсць мноства псіхалагічных пытанняў, калі чалавеку проста трэба пагаварыць з некім, зразумець, што ён у гэтым горадзе не адзін, што можа некаму затэлефанаваць. Акрамя нашага Беларускага дома, у Вільні шмат арганізацый, якія аказваюць падобныя паслугі і дапамогу, існуюць чаты, дзе людзі раяцца, дзеляцца сваім вопытам – і гэта вельмі важна, падтрымліваць адзін аднога.

Для мяне самае балючае, калі людзі перажываюць посттраўматычны сіндром, калі іх не адпускае. Літаральна тыдзень таму прыехаў мой знаёмы, які прызнаўся, што ў разгубленасці, не можа паверыць і ўцяміць, як гэта – карыстацца інтэрнетам без VPN, ісці па вуліцы і не баяцца… Гэта вельмі глыбокая праблема, якая патрабуе кампетэнтнай дапамогі.

**– Бягучы год для “Віленскага беларускага музею імя Івана Луцкевіча” – юбілейны: 140 год з народзінаў самога Луцкевіча, 20 год вашай грамадскай арганізацыі… І – нарэшце – у музея зноў ёсць дах над галавой.**

– Калі ў мяне распытваюць, як у нас з музеем, з памяшканнем, я заўжды прыгадваю вось пра што. Еўстафію Тышкевічу спатрэбілася 10 гадоў, каб яму дазволілі ў Вільні адчыніць свой музэй старажытнасцяў, перавезены з Беларусі, з Лагойшчыны; Луцкевічам спатрэбілася яшчэ трошкі больш часу для адкрыцця гісторыка-этнаграфічнага музэя.

Таму я ставілася досыць спакойна да таго, што наш музэй быў без памяшкання. Шэсць год таму справа было зварухнулася, але потым змянілася гарадское кіраўніцтва, і ўсё зноў заглухла. Гэта вельмі ўсцешна, што ў юбілейны год так склаліся зоркі, і ўрэшце мы пазвозілі свае экспанаты з розных месцаў, і людзі ўжо маюць да іх доступ, каталагізуецца бібліятэка, якая працуе пры музэі.

Таму, калі кажуць “бойцеся мараў, бо яны збываюцца”, я запярэчу –“не бойцеся марыць, мары збываюцца!” Таксама вельмі радуе, што знайшлося новае пакаленне людзей – адукаваных, маладых, з еўрапейскім мысленнем, якім я з радасцю гэта перадаю і ўпэўненая, што ў нашай арганізацыі будзе наступны цікавы этап і ён будзе паспяховым.

Гадоў трыццаць таму, кажа спадарыня Людвіка, мара пра беларускую школу, беларускі касцёл у Вільні здавалася чымсьці нерэальным, на мяжы фантастыкі, і найстарэйшыя беларусы перажывалі, ці будзе каму хадзіць. А цяпер віленская беларуская гімназія імя Францыска Скарына – паспяховая навучальная установа, класы якой ніколі не пустуюць, як не пустуе і касцёл св.Барталамея на Зарэччы, дзе кожны дзень адбываюцца Імшы на беларускай мове.

– Безумоўна, хацелася б большых поспехаў, але, думаю, накірунак абраны правільны і большае будзе, калі мэтанакіравана да гэтага ісці.

**– Яшчэ адна праблема, якой, на жаль, “звязаныя”нашыя краіны – міграцыйны крызіс. Навіны з межаў нагадваюць зводкі з фронту, і, па шчырасці, напружваюць беларусаў. А як гэта бачыцца з вашага боку мяжы, як ставяцца да мігрантаў месцічы?**

– Па-рознаму. Я магу зразумець непакой тых літоўцаў, якія жывуць у памежных раёнах – у іх было сваё спакойнае жыццё, у вёсачках. А цяпер іх жыццё імкліва мяняецца, і гэта натуральна выклікае незадаволенасць, былі розныя выступы…

Не магу асуджаць гэтых людзей, бо, паўтаруся, для іх гэта велізарны стрэс, і можа, не ва ўсіх ёсць разуменне дапамогі. Але на гэтую тэму ёсць шмат дыскусій у літоўскай прэсе, і стаўленне да мігрантаў паступова мяняецца. Што да мяне самой – у мяне ёсць пэўны спакой і давер да літоўскага ўраду, да дзяржаўных органаў, якія робяць усё тое, што лічаць патрэбным у гэтай сітуацыі.

…У адрозненне ад многіх маладых дыяспар, якія самаарганізаваліся ў замежжы толькі летась, для беларусаў Літвы салідарнасць – з’ява даўняя. У іх ёсць стала наладжаныя сувязі з іншымі грамадскімі арганізацыямі дыяспар у ЗША, Вялікабрытаніі, Польшчы, з Радай БНР.

– Гэта супрацоўніцтва ніколі не перапынялася і працавала ў абодва бакі. Я ведаю, што магу да любой арганізацыі звярнуцца, і мы атрымаем неабходную падтрымку, і наадварот, мы заўжды дапаможам, – зазначае спадарыня Людвіка.

– Напрыклад, Аліна Варанюк з Польшчы дзеліцца сваімі напрацоўкамі з нашымі настаўнікамі нядзельнай школкі, “Камунікат.org” – кнігамі для нашай бібліятэкі, заўжды дапамагае нам Беларускае навуковае таварыства Польшчы, фонд культуры і адукацыі Алы Орса-Рамана, Беларускі Дабрачынны Фонд ў Вялікай Брытаніі і многія іншыя – хай не пакрыўдзяцца тыя, каго я зараз не прыгадала…

Мне вельмі хочацца бачыць асяродкі беларусаў, раскіданых па свеце, моцнай і адзінай арганізацыяй. Як польская эміграцыя дапамагла “Салідарнасці”, так і мы мусім дапамагаць сваёй краіне. Мы можам належыць да розных партый, рухаў, але мусім быць аб`яднанныя адзіным багаццем – сваей мовай.

Я гляджу з аптымізмам на гэтую справу, бо бачу, як маладыя бацькі, іх вельмі многа прынамсі ў IT-сектары, прыводзяць дзяцей у нашу беларускую школку, бо бачаць гэта актуальным і патрэбным. Вельмі цешыць, што людзі, пераязджаючы, думаюць не толькі аб тым, як інтэгравацца і ўліцца хутчэй у іншае грамадства, але каб дзеці іхнія не забыліся сваю гісторыю, культуру, свае карані.І тое, што мы атрымалі памяшканне для Беларускага дома, выйгралі конкурс – адбылося дзякуючы не толькі нам, а ўсім беларусам, якія ў 2020-м захацелі “людзьмі звацца”. Гэта справа не кожнай дыяспары паасобку, а агульная – стаць больш цікавымі, больш беларускімі.

**Марына Міхайлава, “Салідарнасць”**

## “Іншыя. Беларуская нацыянальныя меншасць на Падляшшы. Паліталагічная пэрспэктыва”

У выдавецтве Універсітэта Яна Каханоўскага ў Кельцах выйшла кніжка, прысвечаная беларускай меншасці ў Польшчы.

– Кніжка – гэта вынік сацыялагічных даследаванняў і апытанняў, праведзеных сярод беларусаў Падляшша, – кажа рэдактар і суаўтар выдання, прафесар Агнешка Касіньска-Мэтрыка. – Нашая цікавасць Падляшшам трывала некалькі гадоў і мы вырашылі, што толькі эмпірычныя даследаванні, то бок там, на месцы, якія будуць абапірацца на інтэрв’ю, пакажуць нам, якія чыннікі ўплываюць на пачуццё беларускасці. І тут мы самі спрабавалі вызначыць гэтыя чыннікі.

Першая прэзентацыя кніжкі “Іншыя. Беларуская нацыянальныя меншасць на Падляшшы. Паліталагічная перспектыва” адбылася 12 лістапада ў гарадской бібліятэцы ў Бельску-Падляшскім. Прэзентацыя кніжкі адбудзецца таксама ў Беластоку і ў Музеі Малой Бацькаўшчыны ў Студзіводах.

**Анна Шайкоўская, “Беларускае Радыё Рацыя”**

## Кніга “Пётр. Час” Дзмітрыя Плакса ў рэкамендацыях шведскай “Svenska Dagbladet”




Кніга беларускага пісьменніка Дзмітрыя Плакса “Peter. Tid” (“Пётр. Час”) уваходзіць у спіс кніг, рэкамендаваных газетай “Svenska Dagbladet” (“Шведская штодзённая газета”).

“Цяжкая траўма бацькоў і барацьба з неапісальным злом… Гэта вельмі цяжкая кніга для чытання”, – такая заўвага крытыка суправаджае анатацыю да кнігі на сайце газеты. Але варта адзначыць, што спіс фармуецца з кніг, якія не проста былі ўхваленыя крытыкамі, але яшчэ і мелі чытацкі поспех – фактычна гэта бестсэлеры Швецыі.

У жніўні 2019 года трагічна загінуў, зрабіўшыся ахвярай рэзанансная нематываванага забойства, 16-гадовы Пётр Плакс. “Пётр. Час” – гэта кніга жалобы яго бацькі.

**Паводле “Svenska Dagbladet”**

## У Любліне выйшаў па-польску “Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань” Уладзіміра Арлова

У Любліне ў выдавецтве “Варштаты культуры” выйшла кніга Уладзіміра Арлова ў перакладзе на польскую мову. Гэта зборнік балад “Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань”. Кнігу пераклаў вядомы перакладчык і паэт Багдан Задура.

Кажа Уладзімір Арлоў:

– Польская версія, дакладней яна польска-беларуская, двухмоўная, не паўтарае беларускую кнігу “Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань”. Яна істотна большая. Туды ўвайшлі тры мае новыя балады: “Каралева пінгвінаў”, “Цвіў скрыпень” і “Апоўначы ў лонданскім доме”. Кніга вельмі прыгожа выдадзеная. І гэты дадатак – на іншай паперы, што таксама надае нейкі шарм кнізе.

Гэта ўжо чацвёртая кніга Уладзіміра Арлова, якая выйшла ў Польшчы. Папярэдняя кніга “Паром праз Ла-Манш”, якую выдалі ў Гданьску ў 2009 годзе, атрымала літаратурную прэмію “Еўрапейскі паэт свабоды”.

**Васіль Кроква, “Беларускае Радыё Рацыя”**



навіны

# БЕЛАРУСЫ ВРОЦЛАВА СТВАРЫЛІ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ І ІХ БАЦЬКОЎ МОЎНЫЯ КУРСЫ

Два тыдні таму пры вроцлаўскай суполцы Беларускага саюза салідарнасці з'явіліся моўныя курсы.



### "Далучыць дзяцей да беларускай нацыянальнай культуры"

Курсы створаныя "з мэтай далучыць дзяцей да беларускай нацыянальнай культуры, паглыбіць знаёмства з родным краем, беларускімі традыцыямі і фальклорам", – распавялі арганізатары для Budzma.org.

Моўныя курсы толькі пачаліся, адбыліся першыя заняткі для чатырох узроставых катэгорый. Дзеці былі размеркаваныя па групах у адпаведнасці з узростам і з узроўнем падрыхтоўкі: першая група – гэта дзеці 6-7 гадоў, другая група – дзеці 8-9 гадоў, у 3 групе сабраліся 10-гадовыя, а ў 4 групе вучні 11-12 гадоў. Больш за ўсё ахвочых у першай узроставай катэгорыі.

### Заняткі не падобныя да ўрокаў беларускіх школ

Выкладае на курсах прафесійны педагог беларускай мовы і літаратуры, якая вельмі любіць сваю працу і імкнецца перадаць дзецям любоў і павагу да мовы і культуры. Як адзначылі арганізатары, на занятках "выкарыстоўваюцца яе асабістыя дыдактычныя напрацоўкі, якія адаптуюцца да ўзроставых патрэбаў і ўзроўню ведаў у кожнай групе. Настаўніца ўключае сучасныя адукацыйныя тэхналогіі, элементы гульні, стварае ўмовы для творчасці. Мяркуючы па першых водгуках, дзеці і бацькі засталіся задаволеныя заняткамі".

У хуткім часе плануюць уключаць элементы гісторыі Беларусі, культуры і літаратуры, каб не абмяжоўвацца толькі моўнымі заняткамі.

"Наўрад ці гэта падобна на заняткі ў беларускіх школах – дзеці сядзяць разам за агульным сталом, яны камунікуюць і знаёмяцца паміж сабой. Мы спадзяёмся, што першыя два месяцы дазволяць найлепш адчуць патрэбы ў нашай мэтавай аўдыторыі – сем'ях, якія жадаюць захаваць і развіваць беларускую мову, нават знаходзячыся ў эміграцыі. Таксама мы імкнемся дапамагчы настаўнікам, якія за мяжой хацелі б падтрымліваць сваю кваліфікацыю", – распавядае адзін з арганізатараў курсаў.

### Для бацькоў-беларусаў – курсы польскай мовы

Знайсці ахвочых паўдзельнічаць для арганізатараў не стала праблемай, бацькі нават гатовыя аплочваць невялікую суму за заняткі. "Нам пашанцавала прайсці адбор у праграме фінансавання малых ініцыятыў ад Нацыянальнага Інстытута Свабоды – Цэнтра развіцця грамадскай супольнасці, таму першыя два месяцы навучанне беларускай мове для дзяцей будзе бясплатным. Адначасова іх бацькі могуць наведваць заняткі польскай мовы, што і прадугледжвалася праектам, таксама без аплаты на гэты перыяд", – дзеліцца добраю навіною прадстаўнік вроцлаўскай суполкі беларусаў.

Як зазначаюць арганізатары, задача польскіх моўных курсаў – даць бацькам базавыя практычныя веды. Вымушаны і часта раптоўны пераезд у іншую краіну не спрыяе хуткаму вывучэнню замежнай мовы. Нават калі беларусы даволі добра разумеюць польскую мову, стаіць камунікатыўны бар'ер. Такія заняткі дапамагаюць знаходзіць патрэбныя размоўныя формулы ў бытавых сітуацыях.

"Праект мае доўгатэрміновую арыентацыю, таму мы будзем шукаць усе магчымасці, каб зрабіць яго карысным, удалым, насычаным і запатрабаваным", – рэзюмуюць арганізатары моўных курсаў.

**Алесь Масевіч, budzma.org**

## Беларускі каляндар памятных дат на снежань 2021 года

**2 снежня**
- 245 гадоў таму, у 1776-м, нарадзіўся Анёл Доўгірд, філосаф. Памёр у 1835-м.

**7 снежня**
- 100 гадоў таму, у 1921-м, заснавана Таварыства Беларускай Школы.

**9 снежня**
- 130 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Максім Багдановіч, класік беларускай літаратуры. Памёр у 1917-м.

**10 снежня**
- 25 гадоў таму, у 1996-м, памёр Роберт Тамушанскі, рэлігійны дзеяч у Вялікабрытаніі і Ватыкане.

**11 снежня**
- 30 гадоў таму, у 1991-м, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь зацвердзіў Палажэнне «Аб Дзяржаўным бела-чырвона-белым сцягу Рэспублікі Беларусь»

**14 снежня**
- 110 гадоў таму, у 1911-м, нарадзіўся Аляксандр Калодка, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі. Памёр у 1985-м

**16 снежня**
- 70 гадоў таму, у 1951-м, у Нью-Ёрку створаны Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва

**17 снежня**
- 135 гадоў таму, у 1886-м, нарадзіўся Мікола Равенскі, кампазітар, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Бельгіі. Памёр у 1953-м.

**21 снежня**
- 40 гадоў таму, у 1981-м, памёр Міхась Забэйда-Суміцкі, спявак, дзеяч на эміграцыі.

**24 снежня**
- 260 гадоў таму, у 1761-м, нарадзіўся Якуб Ясінскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 г. Загінуў у 1794-м.

**25 снежня**
- Каляды (Божае Нараджэнне) паводле грыгарыянскага календара.

**26 снежня**
- 130 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Алесь Вініцкі, гісторык і дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1972-м.

**27 снежня**
- 185 гадоў таму, у 1836-м, нарадзіўся Валерый Урублеўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. Памёр у 1908-м.
- 115 гадоў таму, у 1906-м, нарадзілася Іна Рытар (па мужу Кахаsucceedaноўская, псеўд. Аляксандра Саковіч), пісьменніца, дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША. Памерла ў 1997-м.

**30 снежня**
- 110 гадоў таму, у 1911-м, нарадзілася Лідзія Ялоўчык (у замужжы Лісок), пісьменніца. Памерла ў 1999-м.
- 70 гадоў таму, у 1951-м, заснавана Арганізацыя беларуска-амерыканскай моладзі ў ЗША.

**31 снежня**
- 105 гадоў таму, у 1916-м, памёр Казімір Альхімовіч, мастак, удзельнік паўстання 1863-1864 гг.
- 45 гадоў таму, у 1976-м, у Мельбурне пачалася Першая сустрэча беларусаў Аўстраліі. Заснавана Федэральная рада беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі.

**Беларусы ў свеце**
№ 11 (234), лістапад 2021
Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"
(у працэсе ліквідацыі)

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 357-70-27